# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1971
Травень-
Чэрвень

Год XIX
№ 3 (126)

ЗЬМЕСТ:

## ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1970 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave, Toronto, Ont. 560 Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12, 8 HY., Gt.Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XIX** **May—June** **№ 3 (126)**

**1971**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE,
LONDON, N. 12, 8 HY ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XIX | ТРАВЕНЬ—ЧЭРВЕНЬ | № 3 (126)

## Беларуская Бібліятэка і Музэй імя Францішка Скарыны — адчыненыя

*«Your Grace, My Lord Bishop, Mr. Deputy Mayor, Ladies and Gentlemen.*
*I have the very great pleasure in declaring. The Francis Skaryna Byelorussian Library and Museum open».*

Урачыстая дэклярацыя праф. Р. Оты пры адсланеньні мармуровай табліцы дня 15 травеня 1971 года, гадз. 4,30.

15 травеня 1971, субота. Цёплы, але хмурны дзень. Ля дамоў рэлігійнага цэнтру (Марыян Гоузэ) і школы сьв. Кірылы Тураўскага большы рух чым заўсёды. Вочы аднак усіх накіраваны на дом № 37 Гольдэн Рд., з якога над дзьвярамі прыгожа разьвеваюцца ўрачыста паднятыя сьцягі: Брытыйскі, Ватыканскі і між імі Беларускі, а ля ўваходу бачым дзьве бронзавыя табліцы з надпісам беларускім і ангельскім, што паказваюць нова-аснаваныя інстытуцыі: БЕЛАРУСКУЮ БІБЛІЯТЭКУ і МУЗЭЙ.

Вось дзеля урачыстага афіцыяльнага адчыненьня Бібліятэкі і сабраліся тут у большым ліку чым звычайна беларусы дый іхнія прыяцелі — госьці — прадстаўнікі іншых народаў.

Сяньняшняя падзея — дзеля яе сапраўднага зьместу і вонкавай сымболікі — становіцца гістарычным актам у беларускім эміграцыйным жыцьці, а такжа і ў лёндынскім Фінчлі.

Затрымаемся крыху шырэй на наступных этапах нова-паўсталай установы:

I Кароткі гістарычны нарыс сучаснай Бібліятэкі і Музэю.

II Іхні зьмест і характар.

III Урачыстае адчыненьне і адсьвячэньне.

IV Водгукі сваіх і чужых.

### I

Як толькі заснаваўся ў Лёндане Беларускі Рэлігійны Цэнтр, тады заснавалася пры ім і Бібліятэка, значыць, ад 1947 г. У яе фонд увайшлі кніжкі прывезеныя а. Ч. Сіповічам у Рым яшчэ перад апошняй вайной, а з Рыму перасланыя ў Лёндан, а такжа іншыя выданьні, якія зьявіліся ў вольным сьвеце.

Паралельна з лёнданскай марыянскай бібліятэкай разьвівалася ў Парыжы пры Беларускай Каталіцкай Місіі бібліятэка, якую камплетаваў а. Леў Гарошка. Калі ў 1958 г. ён уступіў у закон Айцоў Марыянаў, перавёз свой кніжны фонд у Лёндан. Такім чынам злажылася марыянская беларуская Бібліятэка, якая, улучна з кніжкамі тэалягічнымі, літургічнымі, юрыдычнымі і інш. налічала больш 10.000 тамоў.

Пад кіравецтвам а. Льва Гарошкі бібліятэка ўсьцяж узрастала і было ўжо неабходна прыдбаць для яе асобны дом, тымбольш, што сабралася нямала музэальных і асабліва цэнных і памяткавых рэчаў, якім трэба было знайсьці адпаведнае сталае сховішча.

І вось якраз надарылася надзвычайная аказія, што нашыя суседзі на Гольдэн Рд. № 37 запрапанавалі нам купіць іхны дом!

Пасьля неабходых фармальнасьцяў 12 лютага 1970 успомнены дом перайшоў на ўласнасьць Беларускай Бібліятэкі і Музэю, якія былі названыя імям Францішка Скарыны, слаўнага нашага суродзіча з Полацка, перакладчыка і друкара Беларускае Біблії.

Тут падаём грашовы стан Беларускай Бібліятэкі і Музэю на дзень 31 сьнежня 1970 г.

П р ы х о д :

| | | |
|---|---|---|
| Пазыкі ад розных прыватных установаў . | £ 17.140 — | $9^1/_2$ |
| Сабраныя ахвяры . . . . | £ 1.825 — | 8 |
| | £ 18.965 — | $17^1/_2$ |

Расход:

| | | |
|---|---|---|
| Купля дому . . . . . . | £ | 12.240 — 3½ |
| Рамонты дому . . . . . | £ | 1.197 — 49½ |
| Цэнтральнае аграваньне . | £ | 1.615 — 50 |
| Закупка новых кніжак і мікрафільмаў . . . . | £ | 1.201 — 72 |
| Полкі . . . . . . . . . | £ | 699 — 92½ |
| Розныя інвэнтарныя рэчы . | £ | 625 — 56 |
| Новая інсталяцыя электрыкі | £ | 393 — 61 |
| Закупка музэйных прадметаў | £ | 154 — 76 |
| Вада, падаткі, асэкурацыя . | £ | 150 — 79½ |
| Газ і тэлефон . . . . . | £ | 55 — 32½ |
| Розныя . . . . . . . . | £ | 69 — 17 |
| | £ | 18.963 — 39½ |

*

Прыведзеныя тут падрахункі гавораць самі за сябе. І няцяжка заўважыць, што дом куплены за пазычаныя грошы, хаця трэба такжа сцьвердзіць, што даволі значная сума — £ 1.828-8 — было сабрана ахвяраў, большай часткай прысланых беларусамі з розных куткоў сьвету.

## II

У II-ім томе Бел. Сав. Энцыкляпэдыі (Мінск 1970, бач. 324) знаходзіцца такое растлумачэньне слова «Бібліятэка»:

«Бібліятэка (грэцк. бібліён — кніга, тэке — сховішча), культурна-асьветнае установа, якая займаецца зборам кніг і інш. друкаваных і рукапісных твораў, іх спэцыяльнай апрацоўкай і хаваньнем, вядзе прапаганду кніг і выдачу іх чытачам. Па сваім прызначэньні Б. бываюць: масавыя, навуковыя і спэцыяльныя: бібліятэкі дзіцячыя».

Бяз сумніву ўсё тут сказанае тасуецца і да нашай бібліятэкі ў Лёндане. Бяручы пад увагу такія абставіны, што мы жывём на чужыне, што беларускіх кніжак або аб Беларусі ня друкуецца тут шмат і што дагэтуль (за выняткам БССР) ня было за граніцай беларускай бібліятэкі належна зарганізаванай, — трэба ўважаць нашую бібліятэку спэцыяльнай; а яе галоўнай мэтай ёсьць служэньне студыюючай моладзі і навукоўцам у пазнаваньні Беларусі, а перад усім яе культуры, рэлігіі і гісторыі.

Таму-ж у Беларускай Бібліятэцы імя Францішка Скарыны знайшлі адпаведнае месца кніжкі, якія інфармуюць нас аб Беларусі, а спэцыяльна аб яе археалёгіі, (сяньняшні фонд каля 40 кніжак), аб яе мастацтве і архітэктуры, (каля 15 кніжак), аб беларускай бібліяграфіі (сяньня 64 кніжкі), аб гісторыі Царквы (каля 300 кніжак), аб этнаграфіі (60 кніжак), аб гісторыі Беларусі (каля 100 кніжак), аб беларускай мове і г. д.

І ўжо немагчыма пералічыць хаця-бы толькі больш рэдкіх кніжак і больш вартасных, якія знаходзяцца ў нашай скарынаўскай Бібліятэцы. Успомнім толькі для прыкладу важнейшыя:

Кнігі выданьня Францішка Скарыны перафатаграфаваныя з арыгіналу: 15 кніг. Кнігі аб Скарыне: Р. О. Владзімірава, Чатырохсотлецьце Беларускага Друку 1525—1925, Флёроўскага, Чапко, Алексютовіча, Брагі, 450 год беларускага кнігадрукаваньня і інш.

Кнігі сяньня вельмі рэдкія:

Guanini, Sarmatiae Europeae Descriptio, Spirae 1581; Statut Wielkiego Xięstwa Litewskiego, Vilnia 1619, u drukarni Mamoničaŭ; Kojalowicz, Historiae Lithuanae, t. I, Hdansk 1650; t. II, Antverp 1668; Inwentarz Konstytucyy Koronnych y W. X. Litewkiego, Leipzig 1733. I inšyja.

Кнігі беларускіх этнографаў і гісторыкаў: Раманава, Шэйна, Батюшкава, Гурыновіча, Данілевіча, Сахарава, Доўнар-Запольскага, Карскага, Ластоўскага, Гарэцкага, Цьвікевіча і ніш.

У аддзеле часапісаў і газэт маецца блізу ўсе, хаця некаторыя не ў камплеце, выданьні ратацыйныя і друкаваныя у розных нямецкіх пераходных месцах прабываньня большай колькасьці беларусаў.

З перадваенных віленскіх выданьняў у нас ёсьць: Беларуская Крыніца, Калосьсе, Шлях Моладзі, Хрысьціянская Думка, Да Злучэньня, Летапіс і іншыя.

*

БЕЛАРУСКІ МУЗЭЙ — невялікі, але ўжо можа рэпрэзантаваць нас перад чужынцамі. Тут маюцца два аўтэнтычныя слуцкія паясы, лацінскага абраду арнат пашыты са слуцкіх і гродзенскіх паясоў, некалька народных дзяружак, вышытых кашуль.

Тут знаходзіцца калійная соль прывезеная з Беларусі, два беларускія зубры (разьба з белавескага дрэва), паймо пачэся.

Некалька даўніх ікон (Багародзіца Смаленская і інш.), крыж — народная разьба, крыж падараваны сп. Д. Аніськам, з якім ён перайшоў лягеры Сібіру і пераўжыў вайну, скрыначка перададзеная ў музэй а. Я. Гэрмановічам, якая яму служыла ў Сібіру для перахаваньня Сьвятых Дароў.

Даволі багаты аддзел старых і навейшых геаграфічных гістарычных картаў. Сярод іх успомнім толькі карту В. Княжства Літоўскага Мэркатара з 1600 году; карту Г. Гонды з 1613 г., якая ёсьць копіяй ведамай карты В. Кн. Літоўскага Радзівіла; карту езуіта



*Праф. Р. ОТЫ адсланяе мармуровую таблiцу*

Непрэцкага з 1749 г. і карту навейшых часаў Доўнара-Запольскага з 1919 г.

Тут яшчэ трэба ўспомніць аб атласе з 1772 г. Польшчы і В. Кн. Літоўскага, прыгатаваным Рыцці-Зэноні для князя Яблоноўскага. Гэты атлас мае 22 карты і ўсе ў добрым стане. Быў знайдзены і куплены ў Парыжы.

*

Апрача кніжак, часапісаў, газэт, мікрафільмаў, архівальных дакумантаў і рукапісаў, у музэі маемо пліткі з беларускімі песьнямі. Ужо зроблены каталёг у альфабэтычным парадку назваў песьняў. Маецца беларускіх народных і іншага жанру песьняў запісаных на пліткі 258. Апрача таго і літургічныя сьпевы дый 33 танцы.

А ёсьць тут і першы выпуск плітак Забэйды-Суміцкага, наіграных перад апошняй вайной у Польшчы. Такжа ўсе пліткі беларускага хору ў Лювэне, і нямала песьняў у выкананьні хораў пад кіравецтвам Шырмы, Цітовіча, Селях-Качанскага і інш.

*

Пададзеныя тут весткі аб бібліятэцы і музэю дапаўняе брашура Г. дэ Пікарда, якая вышла з друку акурат перад адчыненьнем і пасьвячэньнем і ў часе самай урачыстасьці трапіла ў рукі шматлікім асобам. Сп. Пікарда мае вялікія заслугі ў пашырэньні веды аб Беларусі і яе культуры наагул: а ў наладжаньні і аздобе нашай бібліятэкі ён прыймаў жывы ўдзел, дзелячыся з кажным сваей ведай, сваім выпрацаваным эстэтызмам і сваею ахвярнасьцю.

III

Было пастаноўлена Управай Белар. Бібліятэкі і Музею запрасіць на адчыненьне Пра-



*Зъведваньне Музэю пасьля адчыненьня*

фэсара параўнаўчай славянскай філялёгіі Унівэрсытэту ў Оксфорд Р. Оты; Апостальскага Дэлегата Архібіскупа Дамініка Энрыці; Бургомістра гэтай часткі Лёндану, дзе находзяцца нашыя дамы. Кажны з гэтых Гасьцей ёсьць прадстаўніком пэўнай дзейнасьці, характэрнай для людзкой гісторыі: Прафэсар старадаўнага слаўнага Оксфордскага Унівэрсытэту — прадстаўнік навукі; Апостольскі Дэлегат — рэпрэзэнтант Папы і ўсяго, што з Ім вяжацца, значыць, рэлігійна-маральных хрысьціянскіх прынцыпаў, нарэшце Бургомістр — прадстаўнік сьвецкае ўлады. —

Кажны з гэтых прадстаўнікаў выканаў вызначаныя яму загадзя функцыі.

Праф. Р. Оты адсланіў мармуровую табліцу, да таго часу закрытую бел-чырвона-белым сьцягам і сказаў вельмі зьмястоўную і прыгожую прамову. Выступіў ён у прафэсарскай тозе і ў акадэміцкім бэрэце.

Апостальскі Дэлегат пасьвяціў будынак Бібліятэкі і Музэю. Перш аднак быў прачытаны па ангельску пралатам Янам Ліям Карсон псальм 126 і той самы псальм паўтарыў Біскуп Ч. Сіповіч з кнігі псалтыра, выданай Францішкам Скарынай у Празе ў 1517 г. Вось яго славянскі збеларушчаны тэкст:

Аще не Господь созиздеть дом, всуе трудишася зиждушие и.

Аще не Господь сохранит град, всуе бде стрэгый его.

Дармоть есть нам предсвитаніем воставати: внегда поседите, ядущіе хлеб болезни . . .

Пасьля Апостальскі Дэлегат прачытаў спэцыяльную малітву багаслаўленьня бібліятэкі і пасьвяціў усе залі дому.

Тымчасам народ напоўніў чытальню, каб выслухаць прамовы праф. Р. Оты і Апост. Дэлегата.

Зьмяшчаем выняткі гэтых зьмястоўных і прыгожых моваў. Праф. Р. Оты казаў: — «Уладжаньне і утрыманьне такой бібліятэкі і такога музэю і ў такім месцы зьяўляецца актам веры: бібліятэку трымае невялікая грамада, што знахоціцца далёка ад сваей радзімы, грамада, што знайшлася ў цяжкіх умовах, але поўная самаахвярнасьці.

Мы павінны прызнаць, што праца, турботы і ахвярнасьць, якіх трэба было для закладзінаў гэтай бібліятэкі і гэтакай веры рэдка сяньня можна спаткаць. Калі мы гэта ўсё бачым, павінны прызнаць ім тое, чым яны ёсьць у сутнасьці. Гэта ёсьць акт веры, які сьведчыць аб асаблівых якасьцях і прызначэньні асобнай нацыі — Беларускага народу, аб яго мове і культуры, якая базуецца на той-жа мове і на традыцыях таго-ж народу.

— Адначасна, калі мы глянем з іншага боку, мы павінны прызнаць, што гэтая бібліятэта мае також практычнае значэньне, кажу — практычнае, бо маю на ўвазе навукоўцаў і студэнтаў. Яна ёсьць патрэбнай і для ўсіх тых, хто ў сваіх студыях займаецца культурай той краіны, якую ведаем сяньня як Беларусь, а якая ў прошлым была ведамая пад назвай Вялікага Княжства Літоўскага.

— І так сяньняшняя падзея ёсьць ня тольcкі звычайным актам нацыянальнага самавызначэньня, актам веры ў Беларускую нацыю, але адначасова ёсьць падаркам для вучоных гэтай краіны, а таму мае вялікае значэньне для нас, а ня вылучна для самых толькі беларусаў».

Пасьля праф. Оты ў той самай залі чытальні Бібліятэкі прамовіў Архібіскуп Дамінік Энрыці:

Між іншым ён сказаў: — «Я жадаю шчыра падзякаваць за запрасіны-пабаславіць Беларускую Бібліятэку і Музэй імя Францішка Скарыны . . . Гэтая Бібліятэка і Музэй, апрача таго, што прыпамінае і перахоўвае слаўную гісторыю Беларусі, будзе також панукай, каб насьледаваць у будучыне вялікія хрысьціянскія традыцыі беларускага народу. Гэтая нагода вельмі адпаведная, каб аддаць чэсьць Доктару Францішку Скарыне, якога імям слушна названыя Бібліятэка і Музэй. Імя Др. Скарыны заўсёды астанецца спалучаным з Беларускай Бібліяй, яе тлумачэньнем і друкам. Гэты пачын ёсьць дастатковым сам па себе, каб Скарына заўсёды быў праслаўлены і каб з удзячнасьцю да яго адносіўся беларускі народ і вучоныя біблісты.

— Больш таго, Др. Скарына працаваў з верай і жаданьнем, каб узбагаціць свой народ скарбамі веды і ўзгадваньня, асабліва праз Сьвятое Пісьмо, якое — як ён сам сказаў — зьяўляецца крыніцай усялякай веды. Выразна выяўлянай мэтай, якую ён жадаў асягнуць праз тлумачэньне і друкаваньне сьвятых кніг, была: «слава Бога і карысьць паспалітага люду». Гэтым самым пакінуў ён нам прыклад гарачай любові Бацькаўшчыны і плоднай самаахвярнасьці для добра сваіх суродічаў».

*

Выслухаўшы двух першых прамоўцаў, прысутныя пашлі зьведываць Бібліятэку і Музэй. Вучні школы сьв. Кірылы Тураўскага ў нацыянальных вопратках памагалі захаваць належны парадак.

Пасьля ўсе перайшлі ў дом сьв. Пятра Апостала, суседні з Бібліятэкай. Тут пра-

маўлялі: Заступнік бургомістра сп. Фрыдман, сп. Гэрбэрт ад імя Ангельска-Беларускага Таварыства, сп-ня Раіса Жук-Грышкевіч ад ім'я свайго мужа, Старшыні Рады БНР і ад імя беларускіх арганізацыяў Канады; сп. Янка Міхалюк, старшыня Галоўнае Управы ЗБВБ, а. Язэп Гэрмановіч, найстарэйшы з прысутных беларусаў векам, заслужаны пісьменнік і дзеяч; сп. М. Наумовіч, ад імя беларусаў Францыі. У самым канцы прамауляў Біскуп Ч. Сіповіч, гаспадар урачыстасьці.

Усе прамоўцы выказвалі ў цёплых словах прызнаньне ініцыятарам і арганізатарам Бібліятэкі і Музэю дый жадалі посьпехаў новай установе.

Немагчыма падаць тут усё ў цэласьці і таму абмежымся да некаторых толькі характэрных высказаў.

Сп. А. Гэрбэрт між іншым адзначыў, што паўстаньне беларускай установы «ёсьць прычынай здаваленьня для тых, хто не адзначаецца любоўю да „матушкі Расеі", як украінцы, палякі ды іншыя славянскія народы. І сяньня паўстала новая навуковая інстытуцыя, абсалютна не расейская, а беларуская, прадстаўнік больш даўняй культуры чым тая ў Расеі».

Др. Раіса Жук-Грышкевіч, адзіная жанчына, што прамаўляла, ў сваей пламянай, хвалюючай усіх мове, між іншым сказала: «Чаму Беларуская Бібліятэка і Музэй ёсьць так важнай для нас інстытуцыяй?

Таму, што яна стварае лепшыя магчымасьці захаваньня лучнасьці з нашай гісторыяй — нашым мінулым. А нашае мінулае — гэта карэньні, якімі мы здабываем жыцьцядзейныя сокі для жыцьця і росту нашага народу дый чэрпаем матар'яльную сілу і веру ў лепшую будучыню. Як для расьліны — падрэж яе карэньні й яна засохне, гэтак і для народу — адбяры ад яго ягонае мінулае і ён загіне! Не дарма народагубная палітыка маскоўскага акупанта ў Беларусі хвальшуе і хавае ад беларускага народу ягонае слаўнае мінулае.

Беларускі Музэй і Бібліятэка — гэта помнік нашаму мінуламу, нашым слаўным продкам, гэта скарбніца духовых каштоўнасьцяў, здабытых нашым народам пакаленьнямі, гэта — школа для сучасьнікаў і нашчадкаў. Праз гэтую інстытуцыю і мы, беларускія эмігранты, можам перадаць пакаленьням сьляды і вынікі і здабыткі нашае працы на карысьць Бацькаўшчыны . . . ».

Сп. Я. Міхалюк выказваў неабходнасьць адпаведнага месца, практычна ўладжанага і юрыдычна ўгрунтаванага, дзе маглі знайсьці бясьпечны прыпынак і належную ахову нашыя беларускія нацыянальныя цэннасьці. Ён такжа заўважыў, што апрача падзелаў этнаграфічна суцэльных тэрыторыяў, існуюць падзелы чужога культурнага дабра. Такія інстытуцыі як нацыянальныя бібліятэкі і музэі бароняць свой уласны культурны здабытак.

«Дзень урачыстага адчыненьня Беларускай Бібліятэкі і Музэю імя Францішка Скарыны трэба лічыць днём гістарычным, сьвятам канкрэтнага культурнага пачыну!»

Старшыня ЗБВБ, выказваючы ўдзячнасьць арганізатарам інстытуцыі, успомніў заслугі няпрысутнага Айца Архімандрыта Л. Гарошкі, Айца А. Надсона, Спадароў Г. Пікарда, П. Асіповіча і інш., якія нямала папрацавалі для разьвіцьця нова-паўсталай інстытуцыі.

а. Язэп Гэрмановіч, Супэрыёр Дому Айцоў Марыянаў у Лёндане, рэдактар «Божым Шляхам», ён-же беларускі пісьменнік і ўчасьнік савецкіх лягераў, у кароткай прамове казаў: за час ягонага некароткага жыцьця прыходзілася яму арганізаваць тры бібліятэкі: — у слаўнай Друі, у Вільні і ў Харбіне. Усе тры, на вялікі жаль, былі ганебна змарнаваныя ворагамі нашае культуры. Спадзяёмся, што Лёнданская Бібліятэка — пры Божай ласцы і апецы Брытыйскага ўраду — ператрывае нашае выгнаньне з Бацькаўшчыны і ў належным часе пяройдзе на грунт Вольнае-Незалежнае Беларусі!

Перадапошнім прамаўляў сп. М. Наумовіч. Гаварыў па француску ад імя беларускага «Хаўрусу» ў Францыі. Ён вітаў дасягненьні ўсіх суродзічаў у Лёндане, падкрэсьліў вагу і значэньне для беларускай эміграцыі і нагул для Беларусі сваe Бібліятэкі і свайго Музэю.

Тут няхай нам будзе дазволеным дадаць, што сп. Наумовіч — ведамы беларускі мастак і скульптар, быў адным з першых, што падтрымалі ініцыятыву арганізаваньня Беларускай Бібліятэкі і Музэю і сам ахвяраваў значную матар'яльну дапамогу.

*

Дзеля таго, што загадзя ўсталены парадак прадбачываў заканчэньне афіцыяльнае урачыстасьці а гадз. 6-ай, дык трэба было перапрасіць усіх тых, якія ці то ад імя іншых нацыянальнасьцяў, ці то ад розных арганізацыяў яшчэ жадалі прамаўляць.

Зрабіў гэта Біскуп Сіповіч, падзякаваўшы ўсім, хто толькі якімколечы спосабам прычыніўся да сяньняшняй вялікай нацыянальнай беларускай урачыстасьці. Ён выказаў асаблівае здаваленьне, што нашая моладзь выстраілася ў сваю нацыянальную вопратку і што яна ахвотна дапамагала ў каталяга-

ваньні і інвэнтарызацыі бібліятэкі, а сяньня сымпатычна ўсім услугоўвае.

У той-же залі, дзе было цяпер сабраньне, быў багата застаўлены стол, а нашыя студэнты і госьці-дзяўчаты пачалі частаваць прысутных віном і закускамі. Нікому ня было сьпешна пакідаць залі: сапраўды, радасны настрой заўладаў пачуцьцямі беларусаў, а такжа і нашых шчырых прыяцеляў! Спантанічна прышло да беларускіх народных і патрыятычных песьняў. Нашая моладзь і старшыя імправізавалі праграму і ўдала яе выконвалі. Айцец і сп-ня Абабурка, якія адзначаюцца нязвычайным сьпевацкім талентам, паланілі сэрцы прысутных.

*

Дагэтуль мы ня ўспомнілі (апрача толькі галоўных асобаў і тых, што прамаўлялі), хто быў прысутны на ўрачыстасьці адкрыцьця Беларускае Бібліятэкі й Музэю ў Лёндане.

Управа Б.Б.іМ. пастанавіла запрасіць пэўную колькасьць беларусаў з Вялікабрытаніі і з іншых краінаў. Перадусім былі высланыя запросіны да Галоўнае Управы ЗБВБ і да яе аддзелаў. Такжа да тых, хто быў у нейкай сувязі з нова-паўсталай інстытуцыяй. І так прыбылі на урачыстасьць ўсе сябры Галоўнае Управы ЗБВБ, сябры Лёнданскага, Манчэстэрскага і Брадфордскага Аддзелу. Прадстаўнікі апошняга прыехалі на другі дзень, у нядзелю, і прыймалі ўдзел у дакладах. Злажылі такжа ад свайго клюбу — «Сакавік» ахвяру на Бібліятэку.

З Канады была др. Раіса Жук-Грышкевіч, з Францыі сп. М. Наумовіч і сп. Дубоўскі, з Нямеччыны сп. Ч. Кукель.

З іншых гасьцей, апрача ужо успомненых — праф. Р. Оты, Ап. Дэл. Д. Энрыці, Заступніка бургоміста Фрыдмана і ягонай жонкі, сп. А. Гэбэрта, натуем наступных:

Я. Д. Аўгустын Горняк, Эгзарх Украінцаў у Вялікабрытаніі, князь Кароль Гогэнцоллерн, Г. Россі — сябра парляманту, сям'я Пікарда (5 чалавек), сп-ня. Т. Вэбэр, — старшыня Хрысьціянска-Жыдоўскае Арганізацыі; сп. Джэнкінс — сакратар той-жа арг., рабін Баум; а. Міллер са сваей жонкай — галава англіканскай царквы сьв. Варнавы на Фінчлей; сп. Банкрофт з Брытыйскага музэю; а. Янка Абабурка — галава БПР царквы ў Вялікабрытаніі са сваей сужонкай; сп-ня О. Грабэр, Ф. Віззэль, др. Эрыксон, А. Макміллін — усе за школы Славянскіх і Эурапэйскіх Студыяў у Лёндане; І. Дзінглі з жонкай з Унівэрсытэту ў Рэадінг; сп-ня Георгіадіс — выдавец час. «Хрызастом», граф Галька-Ледухоўскі, палк. Замойскі, сп. С. Грохольскі, і ягоная племянніца Солтан, Спні Магдалена і Вера Річчі; прадстаўнікі арганізацыяў украінскіх, польскіх, славацкіх, чэскіх, эстонскіх, летувіскіх, альбанскіх, мадзярскіх, латыскіх . . .

Прадстаўнікі прэсы мясцовай і ад «The Daily Telegraph».

Усіх прысутных на ўрачыстасьці было нямала, але ніхто іх ня лічыў . . .

*

У нядзелю 16. V. 1971 адбылася урачыстая Літургія ў белар. капліцы сьв. Апосталаў Пятра і Паўла. Саслужылі з Біскупам Ч. Сіповічам айцы Язэп Гэрмановіч і Аляксандар Надсон. Хор школы Сьв. Кірылы Тураўскага пад кіравецтвам сп. Г. Пікарда пры дапамозе гасьцей сьпяваў прыгожа і магутна.

Адчувалася сапраўдная малітва ўдзячнасьці Усёмагутнаму Богу за ўчарайшы дар, які беларусы на чужыне атрымалі.

У казаньні была зьвернута ўвага на Францішка Скарыну, на ягоную творчасьць і на іншых беларускіх волатаў духа і нашых знатных дзеячоў, без якіх мы ўсе сяньня былі-б вельмі бедныя.

Пасьля сьв. Літургіі ў залі Бібліятэкі былі прачытаныя даклады: а. Надсонам на тэму — «Сучасны стан беларускай бібліяграфіі»; сп. Г. Пікарда: «Беларусіка ў розных бібліятэках Эўропы» і сп-няй др. Жук-Грышкевіч: «Аб беларускіх арганізацыях і іхняй дзейнасьці ў Канадзе».

Сп. Калбаса вітаў нова-паўсталую беларускую інстытуцыю ад імя Аддзелу ЗБВБ і ад імя беларускага клюбу «Сакавік» у Брадфорд.

Абед адбыўся ў залі школы сьв. Кірылы Тураўскага, а пасьля абеду некаторыя наведвалі Бібліятэку і Музэй і пасьля сьпявалі беларускія песьні.

Нядзеля была пасьвячана спатканьню вылучна беларусаў.

## IV

На рукі Управы Белар. Б. і М. прыслалі прывітаньні і пажаданьні шматлікія беларускія і іншыя Установы, а такжа асобныя людзі і то даслоўна з усіх канцоў сьвету.

Мы тут падаём толькі вынятки з двух лістоў: ад беларускіх працаўнікоў радыё «Свабода» з Нью Ёрку і з ліста сп. Сьцяпана Онысько, украінца, які быў прысутны на самай урачыстасьці.

Зьмест гэтых лістоў ёсьць найлепшай нагародай для ўсіх тых, што не шкадавалі часу, натугаў і матар'яльных сродкаў, каб зарганізаваць на адпаведным узроўні і згодна з сучаснымі вымогамі Беларускія Інстытуцыі на чужыне.

«Калі народ у дыяспоры, калі геаграфічная воддаль разрывае фізычную і духовую блізкасьць між суродзічамі, дык культурныя установы замяняюць сабою родную глебу. Няхай-жа плод Вашае дальнабачнасьці і цярплівае працы — Бібліятэка і Музэй імя Францішка Скарыны, — перамагаючы далеч у даслоўным і пераносным сэнсе, стануцца нявычэрпнаю крыніцаю веды пра Беларусь, ядром духовага адзінства для ўсіх шукальнікаў праўды пра беларускі народ!

Шчасьці, Божа, на Многая Лета!»

Ліст Вельмі Паважанага сп. Сьцяпана Ониські замешчаем у ягонай прыгожай украінскай мове. Прыймаемо яго, як шчырае выяўленьне прадстаўніка братняга нам народу. Вось яго даслоўны зьмест:

*

Лондон, 17. травня 1971

Високоповажані Панове!

Будучи на відкритті Вашої Білоруської Бібліотеки і Музею дня 15. травня ц. р. не можу відмовити собі дійсної приємности і не висловити моїх вражінь і почувань з приводу тієї знаменитої події в житті Білоруської Громади у В. Британії і взагалі в житті Білоруського народу, братнього народу нам українцям.

Це велике досягнення в житті Білоруського народу поза межами Батьківщини, здійснене невтомною працею, відданістю національній справі, далекозорістю і відчуттям дійсности і потреб його синів, провідників Білоруської громади у В. Британії на чолі з Високопреосвященным Владикою Сіповичем, Архіепископом Білоруської Католицької Церкви і при допомозі і при широкому свідомому і патріотичному поперті загалу Білорусів, є цінним вкладом в скарбницю Білоруської культури.

На відкритті я з увагою слідкував та помічав на обличчях приявних Білорусів невимовне вдоволення, радість та благородну гордість своїм досягненням, а на чужинцях, представниках церковних, урядових та національних груп у В. Британії дійсне признання.

Чим для Білорусів є новопостала культурна станиця, про її значіння і ролю, говорили найкраще білоруські представники, Високодостойний Владика Сіпович, представниця Білорусів Канади пані д-р Жук-Гришкевіч, представник Білорусів Франції артист Наумович та вкінці Голова Білоруської Громади у В. Британії п. Міхалюк.

Білоруська Бібліотека і Музей у В. Британії, це знаменитий історичний, культурний і політичний пам'ятник Білоруському Народові в діяспорі, це поміст в світ для реального і ефективного ставлення білоруської національної справи в світі, це важливий чинник для морального росту, національної себепевности, себевартости і спроможностей.

Між приявними були найстарший віком учасник відкриття, поет і національний діяч, мученик за білоруську справу Високодостойний о. Германович та представники наймолодшого покоління — шкільна молодь.

Нехай цей успіх, Дорогі Панове, помножує успіхи дальших Ваших зусиль на щастя і славу Білоруського Народу.

Помагай Вам Боже!

Мгр. Степан Онисько

*

Пэўна-ж, каб асягнуць тыя мэты, якія паставіла сабе новая беларуская Установа і падказалі ёй ейныя суродзічы і прыяцелі, нам патрэба вялікай Божай помачы, моцнай веры ў свой народ і шчырага супрацоўніцтва з людзмі добрае волі.

Калісьці Цэзар, пераступіўшы Рубікон, сказаў: «Alea iacta est».

Па беларуску гэта можна было-бператлумачыць:

«Узяўся за гуж — не кажы, што ня дуж!»

*Д.*

# На кніжнай паліцы

**Новы Закон Спадара а Спаса нашага Ісуса Хрыста**

З мовы грэцкае на беларускую нанава перакладзены ў Ню Ёрку 1970, бачын 260.

Кажную кніжку, што выдаецца ў беларускай мове, мы вітаем, як новы падарунак для стомленай беларускай душы, якая можа знайсьці ў ёй пажыву і падтрыманьне.

Асабліва гэта датычыцць кніг Сьвятога Пісьма Старога ці Новага Запавету.

На вялікі жаль, мы ня можам цешыцца з нова-выданай кніжкі, названай «Новым Законам Спадара а Спаса Нашага Ісуса Хрыста».

Мы не маем ніякае прадузятасьці да яе аўтара, каторы па свойму праз доўгія гады працаваў, каб зрабіць штосьці добрае для Бела-

русі і беларусаў. Аднак мы ня можам прыняць дзіўных штукарстваў аўтара, асабліва, калі на гэтым церпіць беларуская мова, а тым самым і беларуская культура і справа; дый паніжаецца само Эвангелле і Сам «Спадар а Спас Хрыстос»!

Дзякаваць Богу тлумачэньняў Новага Запавету на беларуску мову ў нас дасюль хапала. Яшчэ ня перастарэлі выданьні др. Ільдэфонса Бобіча, Кс. Адама Станкевіча, Антона Луцкевіча, Кс. Вінц. Гадлеўскага, Кс. Пралата П. Татарыновіча, Архімандрыта Льва Гарошкі. Некаторыя з іх былі толькі частковыя, (Бобіча, Станкевіча, Гарошкі), але ўсе вельмі салідныя і карысныя.

Маючы ўжо гэтулькі тлумачэньняў, здавалася, што новы перакладчык толькі ўдасканаліць папярэднія або паправіць недахопы. Але сталася зусім інакш: аўтар у сваім дзівачным жаргоне стараецца быццам выясьніць Хрыстовыя праўды, але ён больш іх зацямняе . . . Дый ніхто з беларусаў ня прызнаецца да гэтай гамонкі, як да сваей роднай, якая ўжываецца ў гэтым «Новым Законе»!

І проста немагчыма выказаць усе недарэчнасьці ў перакладзе, бо яны спатыкаюцца на кажнай бачыне дый амаль у кажным сказе. Тут падаём толькі частку «кветачак» з гэтага гароду:

Бачына 5-ая. **«ЕВАНГЕЛЯ подле сьватога Мацьвея»:**

«. . . адчыніўшы скарбы свае, абраклі Яму дары». (Раз. 2, 11).

«. . . кажнае дзерва . . . будзе ссечаса й кінена ў цяпло» (3, 10).

«Ішоў за Ім чысьлены груд» (4, 19).

«Я ўчыню вас лаўбітамі людзёў» . . .

«. . . калі хочаш, зробім тут тры буданы».

«. . . вось булак сьветлы ахінуў іх».

«. . . нікому не кажыце пра гэту відзень». (17, 4-5-9).

. . . бо ідзе двух альбо трох зьбершыся ў Імя Мае . . .» (18, 20).

«. . . ідзе-лень будзе абяшчана Евангеля....» (26, 13).

✶

**«ЕВАНГЕЛЯ подле сьватога Маркі»:**

«Цешча Сымонава ляжала ў гаручцы і без адвалокі кажуць Яму празь яе» (1, 30).

«Давід, як меў патрэбу . . . сам а бытыя з Ім . . . еў букаткі пакладаныя . . . і даў бытым із Ім». (2, 25-26).

«І, пачуўшы свае Ягоныя пайшлі няць Яго, бо дзейкалі, што Ён вонках сябе». (3, 21).

«І сказаў ім Ісус: прарокі бязь сьці . . .» (6, 4).

«І ён якга празерыў і пайшоў, за Ісусам». (10, 52).

«Яны йшлі й наказалі засталым і гэтыя не нялі веры (16, 13).

**«ЕВАНГЕЛЯ подле сьв. Лукі»:**

«. . . было яму жэрабя кадзіць . . . ангіл стоячы паправе аброчніка кадзеньня . . . і ляк абняў яго» (1, 9-11-12).

«. . . дзявушчае імя: Марыя . . . І Марыя сказала: — Вось, служэбка Спадарова: хай будзе імне подле слова Твайго». (1, 27-38).

. . . залякалася дзяцё Ісус у Ерузаліме . . . (2, 43).

«. . . будучы, як думалі, сынам Язэпа Гілянка, Матфацёнка . . . Давідзёнка . . . Ноянка . . . Адамёнка, каторы быў Божы». (4, 23, 38).

✶

**«ЕВАНГЕЛЛЕ подле сьв. Яана»:**

«. . . Вецер вее, ідзе хоча» (3, 8).

«Кажа Ісус: — Напоўніце судзіны вадою. — І напоўнілі іх ушчырк. І кажа: — Цяпер засіліце й нясіце да загадніка часьці» (2, 7-8).

Сказаў Ісус: «. . . хто ня ўходзе перазь дзьверы . . . тый злодзей а глабаньнік». (10, 1).

✶

**«ДЗЕІ сьв. Апосталаў»:**

«. . . Пётра, стаўшы пасярод братоў, — груду наймя разам было каля сту двaццацёх... І кінулі на жэрабя на іх, і пала жэрабя на Мацьвея». (1, 15-26).

«І зьнецікі стаўся гук із неба . . . (2, 2).

✶

І ўсюды ўжываецца слова «прарока» замест «прарок». Замест «Сын чалавечы» перакладаецца «Сын Людзкі», хоць у бел. мове «Сын людзкі» мае асаблівае значэньне. І заўсёды піша: «Імне» замест «Мне», «з Імною». А слова «жонка» атрымала значэньне: сужонкі і жанчыны. Дый усюды ставіцца «а» замест «і» «Сьці айца а маці — на манер чэскага злучэньня.

У некаторых месцах абсалютна няведама, што перакладчык хацеў выразіць: «І Гірад із воямі сваімі ўлегцы замеў яго» (Л. 23, 11). «Пілат, пагукаўшы сьвятароў а дзяржаўцаў а люд . . .» (Лука 23, 13).

«Імкненьне стацца арыгінальным даводзіць да сьмешнасьці: «. . . бо былі рыбнікі», «па ўсёй Сыры» замест «Сырыі». І яшчэ: «Ішоў за Ім чысьлены груд».

І няма паясьненьня слоў такіх як: Гля, што-лень, вулоньне, якга, відаль, наўза, сіляць, сьпятрэлы (ссохшы?), тойма, удругава, уклякшы, зраджацца, «перацярпелі цяжар дня а вад (?)» . . .

Магчыма хтосьці, калісьці ў гэтым штучным творы знайдзе штосьці цэннае для беларускай мовы, але ці варта было ўкладаць гэтулькі натугі і зьдзеку над мовай, асабліва, што гэта сьцісла лучыцца з Божым словам і з Божымі праўдамі?

Эвангелле ў першую чаргу прызначана для людзей простых, не для дактароў філялёгіі. І ўжо наш слаўны Скарына імкнуўся незразумелую славянскую мову перадаць у жывой беларускай, каб яе зразумелі «паспалітыя людзі».

Сяньня, калі беларуская літаратура дагаяе творчасьць выдатных народаў, калі маемо гэтульки граматыкаў і слоўнікаў, дык сапраўды недарэчна — тварыць новы беларускі «воляпюк» ці эспэранто, для якога трэба даваць спэцыяльны слоўнік, каб зразумець сэнс перакладу! . . . І ці калі хто ад пачатку сьвету так дакучліва і вытрывала зьдзекаваўся над беларускай мовай і над Сьвятым Пісьмом, як гэта робіць перакладчык «крывіцкі а вялікалілоўскі» ў сваей працы, што назваў: «Новы Закон Спадара а Спаса Нашага Ісуса Хрыста»? . . .

---

# Кіеўскі малітаўнік пачаткаў XVIII стагодзьдзя

Адзін з нашых амэрыканскіх дабрадзеяў зрабіў вартасны падарунак Беларускай Бібліятэцы ў Лёндане: ахвярваў кніжку друкаваную ў Кіяве ў пачатку XVIII стаг. Варта ёй пасьвяціць крыху ўвагі, пакідаючы для больш навуковага разгляду асобам кампэтэнтным і зацікаўленым.

Вонкавы выгляд кніжкі зьвяртае на сябе ўвагу сваей нязвычайнай формай. Разьмер яе 8 мм × 45 мм., а бачын усяго 1224. Таму, узяўшы яе ў рукі і крыху адчыніўшы, атрымаеш уражаньне быццам трымаеш гармонік. На жаль, няма першага загаловачнага ліста і таму, каб усталіць назоў і год выданьня, трэба ўважна ня толькі пералістаць, але й парадзіцца ведамых аўтараў, якія займаліся апісаньнем стара-славянскіх друкаў, як Цітаў, Каратаеў, Сопікаў дый інш.

На самым пачатку кніжкі маемо «предисловіе», якое ёсьць словам або казаньнем сьвятога мучаніка Кіпрыяна і пачынаецца: «Благая есть молитва с говеніем і милостынею . . .».

А пасьля «предисловія» знаходзім вось такую важную для мэтрыкі кніжкі інфармацыю:

«Общій всех слуга і молитвеннік, святыя великія чудотворныя Лавры Печерскія Кіевскія Архимандрыт Іоанникій с братіею».

Ад часаў, калі Архімандрыт Елісей Плеценскі (памёр 1624 г.) купіў ад Балабанаў друкарню і перавёз яе ў Кіева-Пячэрску Лаўру, да пачатку XVIII стаг., зьмянілася там некалькі архімандрытаў ягоных наступнікаў . . . Пераважна былі яны з паходжаньня украінцамі, але здараліся такжа сярод іх і беларусы, прыкладам Архім. Язэп Трызна (1647—1656).

Кажны з іх цаніў друкаванае Божае слова і ня дзіва, што на працягу многіх гадоў выходзіла з пад друкаванага станка Кіява-Пячэрскіх манахаў шмат вартасных друкаваных кніжак, якія мелі свой уласны характар. Яны часта насьледавалі традыцыю віленскіх выданьняў, а пакуль гэта было магчыма, розніліся ад маскоўскіх.

Архімандрыт Іоаннікій Сенютовіч быў выбраны посьле сьмерці архім. Апанаса Міслаўскага ў 1715 г., а кіраўніком Кіева-Пячэрскай друкарні быў за яго часаў ведамы друкар мастак Антон Тарасэвіч. І мы блізу пэўныя, што абодвы былі беларусамі.

За часаў архім. Іоаннікія здарыліся два выпадкі, якія можна было-б назваць ягоным няшчасьцем. У 1718 г. пажар лаўры нарабіў шмат шкодаў і прыпыніў друкаваньне кніжак на добрых пару гадоў. Хутка пасьля гэтага выйшаў указ цара Пятра І, якім загадвалася, каб усё, што будзе друкавацца манахамі Кіева-Пячэрскай лаўры, падлегала папярэдняй царскай цэнзуры і ўсе выданьні узалежніліся ад дазволу створанай царом калегії.

*

Варта тут прагледзіць, як прышло да царскага указу?

У 1718 г. вышла з друку ў тойжа кіеўскай друкарні «мінологія» або месяцаслоў. У загаловачным яго лісьце чытаем: «Благословеніем между патріаршеством освященнего собора Рос. в св. вел. чудот. лавре печер. Кіевск. ставропигі Святейшаго Вселенскаго Константинопольскаго Патріарха . . .»

Урад дэспатычнага цара зьвярнуў увагу на тую агаворку ў тытуле, якая адносілася да Канстантынопальскага Патрыярха і бачыў у гэтым незалежнасьць лаўры ад Масквы. Таму 22 сьнежня 1720 г. выдаў указ, які вымагаў:

1) Каб Кіева-Пячэрская лаўра заўсёды называла сябе стаўрапігіяй усерасейскіх маскоўскіх Патрыярхаў;

2) Каб ня друкавала іншых кніг, як толькі царкоўныя, але перш узгодніўшы іх з маскоўскімі выданьнямі;

3) «дабы никакой розни и особаго наречія во оных не было . . .»

Значыць, меў быць поўны кантроль і русыфікацыя кіеўскіх друкаваных выданьняў.

*

Зьвертаючыся ізноў да нашае кніжкі, мы ў ёй знаходзім такую зацемку ад рукі: «Сію книгу глаголемую Молитвослов купих аз Стефан Остоевич за 7 марыашов. Всадрад: в двору Архіер. Ісаии Антоновича. Лета: 1737. Августа 6-го.»

Нам нічога ня ведама, хто такі быў Ісая Антановіч. Ня зусім такжа ясна ужытае там слова «Всадрад». Магчыма, што памылкова напісана замест «вседрад», а гэта было-б скаротам ад «всерадетель», значыць, чалавек, які клапоціцца аб чыімсь дабры, аб чыейсь маемасьці, а такога мы сяньня называем эканомам або адміністратарам. Такім чынам Сьцяпан Остоевіч эканом біскупа Ісаі Антановіча ў 1737 г. купіў малітваслоў за 7 марыяшаў. Ізноў-жа ня ведаем, што азначаюць тыя «марыяшы»? «карбаванцы»? «чырвонцы? «рублі»?

Тут аднак знаходзіцца вельмі важная дата куплі кніжкі, таму ёсьць пэўным, што яна была надрукавана перад 1737 г.

Можна яшчэ лепш удакладніць гэтую дату. Яна ўбачыла сьвет за часаў Архім. Іоаннікія Сенютовіча, а ён быў у гадох 1715-1730. Таму бяз сумніву наш Малітваслоў выйшаў з друку перад 1730 г.

Мы аднак думаем, што наш «Кіеўскі Малітваслоў», які цяпер знаходзіцца ў Беларускай Бібліятэцы імя Фр. Скарыны, быў надрукаваны перад 1720 годам, гэта значыць перад указам цара Пятра, аб якім была гутарка папярэдня. Магчыма яшчэ перад пажарам Кіеўскай лаўры, або хутка пасьля таго.

Чаму можна рабіць такія дапушчэньні?

У бібліятэцы Брытыйскага Музэю ёсьць Малітваслоў, выдрукаваны ў Кіеве ў той самай лаўры ў 1734 г. І зьмест гэтага пазьнейшага малітаўніка ёсьць падобны, але ня той самы, якім мы тут занялiся. Зьвернем увагу на тры цікавыя розьніцы: Малітаўнік з 1734 г. мае загаловачны ліст, дзе сказана, што ён надрукаваны «повеленіем . . . імпэратрыцы Анны Іоанновны, благословеніем же Св. Прав. Сінода»; ён не мае малітвы сьв. Бэрнарда да Найсьвяцейшай Дзевы Марыі; мае іншы большы фармат і мае некаторыя літургічныя малітвы, якіх няма ў малітваслове Бел. Бібліятэкі.

Усё разважыўшы, выглядае, што сынадальная цэнзура ад часаў Пятра І не магла дапусьціць, каб у праваслаўным Малітваслове знаходзілася малітва сьв. Бэрнарда, вялікага паклонніка Багародзіцы, але тыпова сьвятога лацінскае заходняе Царквы. Падобныя зьявы для кіеўскай праваслаўнай Царквы былі дапушчальныя, але не для маскоўскай, якая заўсёды баранілася як ад чумы ад заходніх уплываў. Яна была варожай для кнігаў Скарыны ў XVI стаг. і для рэдакцыі праваслаўных малітаўнікаў, друкаваных у Вільні і ў Кіяве.

*

Малітваслоў Беларускай Бібліятэкі даволі добра захаваўся, дык чаму-ж не мае першай загаловачнай бачыны?

Напрошваецца адказ: яе вырвалі або прадаўцы манахі, або першыя ўласьнікі малітаўніка, каб яго ратаваць ад расейскае ўлады, бо кніжка не прайшла праз царска-сынадальную цэнзуру.

Якім спосабам наш Малітаўнік трапіў у Злучаныя Штаты Амэрыкі, мы ня ведаем. Варта аднак адцеміць дзіўную акалічнасьць: яго друкаваў беларускі мастак друкар у Кіева-Пячэрскай лаўры Тарасэвіч і пасьля 250 гадоў беларускі сьвятар Янка Тарасэвіч параказаў яго ў нашую Беларускую Бібліятэку! Ці не параклікаюцца тут праз сталодзьдзі Т а р а с э в і ч ы ? . . .

---

# ЗАПІСЫ, кніга 5,

**München 1970. Выдавецтва Інстытуту Навукі і Мастацтва. Бачыны 268.**

Уся кніга прысвячана Доктару Францішку Скарыне з нагоды 450-ых угодкаў выданьня першай ім надрукаванай кнігі «Псалтыр», які зьявіўся 6 жнівеня 1517 г.

«Запісы» вышлі спозьнена, але на гэтым яны нічога не страцілі, а нават скарысталі, бо пільны іх аўтар дапоўніў бібліяграфію.

Апрача адзінага артыкулу Я. Садоўскага: «Лексычныя асаблівасьці кнігі Царстваў Скарыны», увесь іншы зьмешчаны ў «Запісах» матар'ял належыць пяру др. В. Тумаша, заслужанага скарынаведа.

5-ая кніга «Запісаў» — гэта найпаўнейшы бібліяграфічны даведнік аб Скарыне і аб усім тым, што з ім у гісторыі вяжыцца. Грунтоўнасьць і пэдантычная акуратнасьць аўтара 5-ай кнігі бяз сумніву заслужыла на вялікую пахвалу. Беларуская навука на чужыне можа быць гордай з новага асягненьня.

Уважна перагортываючы «Запісы» заўважыліся такжа пэўныя недакладнасьці, якія, ня гледзячы на ўсю агляднасьць аўтара, туды закраліся.

I

**Бач. 193, № 48.**

Тут сказана: ПСАЛТЫР. 6 жніѣеня 1517 г., балонак 142 (284 бачыны). Зьмест і Прадмова, тэкст, 10 ранішніх рэлігійных песьняў, паслоўе, 3 дрэварыты.

Трэба скарыгаваць раз на заўсёды памылкова пададзены лік балонак першай надрукаванай Скарынам кнігі. Аўтар бібліяграфіі «Запісаў» ня мог дагэтуль спраўдзіць (de visu) скарынаўскай кнігі Псалтыра, а паўтарыў памылку за Каратаевым[1] і за Владзіміравым[2], пад уплывам каторых быў і М. Піотуховіч[3].

А ў сапраўднасьці Псалтыр Скарыны меў у пражскім выданьні значна больш балонак, а затым і бачын.

Паводле экзэмпляра, які знаходзіцца ў ленінградзкай бібліятэцы, можна ўстанавіць наступнае: кніга Псалтыра мае 129 балонак (258 бачын), але гэта толькі першая частка Псалтыра, г. зн., 150 псалмаў падзеляных царкоўным звычаям на 20 кафізмаў.[4] Другая частка Псалтыра, якая зьмяшчае 10 песьняў розных біблійных аўтараў з малітвамі, якія звычайна чытаюцца або сьпяваюцца падчас ютрані разам з канонам, мае прадаўжэньне нумараваных скарынаўскім спосабам бачынак 24 (балонак 12). Апошняя балонка скарынаўскага друку назначана лічбай «141». Далей у кнізе Псалтыра ідзе рукапіс няведамага аўтара (XVII стаг.?) і так яшчэ даходзіць 86 балонак (172 бачыны).

Ніхто ня сумневаецца, што рукапіс перадае загублены скарынаўскі друк, аднак цяжка сказаць, паколькі бачына ў бачыну адказвае арыгіналу. Аднак мы можам дапусьціць, што поўны Псалтыр Скарыны меў каля 227 лістоў (каля 454 бачын). Канчаткова можна будзе удакладніць, маючы ў руках здымкі або арыгіналы з эгзэмпляра кнігі Псалтыра, які знаходзіцца ў бібліятэцы Дзяржаўнага Гістарычнага Музэю ў Маскве, фонд. Хлуд., 4.[5]

Заўважым, што Владзіміраў зрабіў арытмэтычную памылку ў падсумаваньні ўсіх балонак чатырох кніг надрукаваных Скарынам у 1517 г. Прыняўшы памылковы лік для Псалтыра 142 лісты, для кнігі Іова 51, для кнігі Прыповесьцяў 48, для кнігі Сіраха 81; значыць, у суме маемо 322, а не 222!

II

**Бач. 256, № 1076.**

Кніжка, якая тут успамінаецца, мае поўны тытул гэтакі: «La persécution de l'Église en Lithuanie et particuliérement dans la diocése de Vilna. *Traduction* du Polonais revue et précédée d'une préface par Le R.P. Lescoeur de l'Oratoire. Paris 1873.

Значыць, а. Lescoeur, ааратарыянін, ня ёсьць аўтарам кніжкі, а толькі перакладчыкам. Яна перш зьявілася ў польскай мове пад такім загалоўкам: «Litwa pod względem prześladowania w niej Rzymsko-Katolickiego Kościoła szczególniej w dyecezyi wileńskiej od roku 1863 do 1872. Poznań 1872.

Хто напісаў гэтую кніжку? Ня ведаем.

Гэты сам ы аднак а. Lescoeur ёсьць аўтарам двухтамовай працы (ў другім выданьні, а ў першым яна зьявілася ў адным томе) якой поўная назва ёсьць: L'Église Catholique en Pologne sous le Gouvernement Russe depuis le premier partage jusqu' a nos jour (1772—1875). Paris 1876. T. I—II.

Вось-жа ў II-ім томе, бач. 268, успамінаецца такжа Скарына. Прыводзіцца дaслоўны тэкст з кніжкі перакладзенай з польскай мовы. Такім чынам аб Скарыне ёсьць гутарка ў трох розных кніжках, хаця ў ва ўсіх ёсьць аднолькавы зьмест.

III

Бібліяграфічны сьпісак аб Скарыне варта дапоўніць:

1) Podręczna Encyklopedya Kościelna, t. 35—35, Warszawa 1912, бач. 293.

Кароткі артыкул аб Скарыне нікім не падпісаны.

2) Maly Słownik pisarzy narodów europejskich ZSRR, Warszawa 1966, бач. 254—55.

Артыкул аб Скарыне падпісаны А(лександэр) Б(аршчэвскі).

IV

**Скарына ў Прусах, бач. 26—28.**

Да ўсяго таго, што тут сказана пра Скарыну, варта зьвярнуць большую ўвагу на той экслібрыс Паула Спэрата, які знаходзіцца

---

[1] Описание славяно-руских книг напечатаных кириловскими буквами. Т. I с 1491–1652. Санктпетербург 1883, бач. 43, нр. 14.

[2] Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. СПБ 1888, бач. 66.

[3] Францішак Скарына і яго літаратурная дзейнасьць. 400-лецьце Беларускага Друку, Менск 1926, бач. 171.

[4] Псальм дадатковы 151-ы зьмясьціўся на балонцы 129.

[5] Францыск Скарына, Прадмовы і пасьляслоўі, Мінск 1969, бач. 197.

прыклеены да скарынаўскай кнігі Псалтыр, выданай у Вільні каля 1525 г., а які цяпер — у бібліятэцы Брытыйскага Музэю.

Павал Спрэт (нарадз. 13. XII. 1484), каб унікнуць лацінскай формы свайго прозьвішча «Spretus» (Пагарджаны), зьмяніў яго на «Speratus» (Надзейны) у 1503 г., калі запісваўся на унівэрсытэт у Фрэйбургу.

У 1524 г. Марцін Лютар пасылае яго ў Прусію, дзе ён спаўняе абавязак прапаведніка на двары гэрцага Альбрэхта, а на пачатку 1530 г. стаўся біскупам Памэраніі.

Спэратус сам укладаў пабожныя песьні, выдаваў свае кніжкі, а да некаторых з іх уступ напісаў сам Марцін Лютар. Памёр Спэратус 12 жніўня 1551 г.

Магчыма, што наш Скарына спатыкаўся з гэтым самым чалавекам, але апрача таго экслібрысу іншага доказу сутычнасьці са Спэратусам не маем.

Жыцьцём і дзейнасьцю Паўла Спэратуса займаўся праф. П. Тшакерт. У кнізе: Paul Speratus Von Rötlen, Evangelischer Bishof von Pomesanien in Marienwerder, Halle 1891, на бач. 100, адноска 147, — ён пасьвяціў крыху ўвагі гэрбу Спэратуса. Апісаўшы яго, ён заўважыў, што калі Спэратус стаўся біскупам, дык выкінуў са свайго гэрбу літары P. і S. Значыць, ад 1530 г. на гэрбе Спэратуса больш ягоных ініцыялаў P. і S. не знаходзім.

Гэрб Спэратуса на кнізе Скарыны літары P. і S. мае. Гэта сьветчыць, што кніга трапіла ў рукі Спэратуса ў гадох 1525—1530. Найбольш праўдападобна ў 1530, калі Скарына пакінуў Прусы. Сама аднак справа прабываньня Скарыны ў Прусіі і ягоная там дзейнасьць вымагаюць далейшых студыяў.

Ч. С.

---

*Уладзімер Глыбінны*

# На Сьвятой Зямлі

(НАРЫСЫ З ПАДАРОЖЖА Ў ПАЛЕСТЫНУ)

***(Працяг)***

«Кажны чалавек зарабляе свой хлеб адно яму даступнымі сродкамі», — думаў пра тога казака Ўсевалад і паклаў яму свайго даляра на куфэрак. «Няхай яму Бог даруе ягонае вынаходзтва. Жыць жа яму неяк трэба і на тэй гары, куды яго закінуў лёс у ролі інака і дзе ён цешыцца той нямой цішынёй, у якой адно найлепш і слухаць голас Усявышняга і ратавацца ад наступу сатаны. І Бог яму, я пэўны, даруе тыя нявольныя грахі, ад якіх людзям зла ня робіцца, а беднаму інаку падмога вялікая. А часам можа і на дабро пойдзе, калі чалавек вераю лечыць злыдні, што пераследуюць яго?»

Немагчыма пералічыць усе манастыры ўсіх веравызнаньняў на Сьвятой Зямлі. Іх значна больш, чымся паломнікам даводзіцца за два тыдні наведаць. У кажным зь іх па-свойму, на сваёй мове і паводле сваіх традыцыяў, праслаўляюць Бога і прапаведуюць хрысьціянскі шлях жыцьця. Гэта заўсёды радуе і натхняе паломнікаў і ўсіх, каму дарагія Вялікія Хрыстовыя запаветы. Адно ў наш час наводзіць на сумныя развагі: немагчымасьць папаўненьня манахаў у праваслаўных манастырох вядзе да ўсе большага і большага скарачэньня іх ліку. Старыя манахі паступова паміраюць, — дарма, што іх век звычайна даўжэйшы, чымся людзей сьвецкага жыцьця. А на зьмену ім прыходзіць вельмі і вельмі мала. Вялікая крыніца іхняга заўсёднага папаўненьня з праваслаўнага славянства цяпер бадай-што зусім запынілася ў выніку захопу ўлады ваяўнічымі бязбожнікамі. А маленькая Грэцыя, адзіная цяпер у вольным сьвеце праваслаўная эўрапэйская дзяржава, ня ў стане запоўніць усе вакансіі ў праваслаўных манастырох Палестыны. Таму праваслаўныя манастыры арабскае Палестыны запоўненыя далёка не на поўную магчымасьць. Часам там, дзе магло бы быць сотня ці больш манахаў, жыве адно які дзесятак, а часьцей і таго менш. А ў Ізраільскай частцы Палестыні і таго горш. Ізраільскі ўрад не дазваляе наагул прыяжджаць манахам з-за мяжы і асяляцца ў манастырох. Разьлік просты: з часам старыя манахі адыйдуць у лепшы сьвет, а манастыры з-за адсутнасьці жыхароў адыйдуць да дзяржаўнае маёмасьці. Цяжка манастыром і з сродкамі: адзіная крыніца папаўненьня касы — ахвяры паломнікаў. Дабрабыт і лёс манастыроў тых у значнай ступені залежыць ад добрага сэрца кажнага хрысьціяніна ў сьвеце і ўсіх нас.

## XII

## У ПАТРЫЯРХІІ ЕРУСАЛІМСКАЙ

*«Паўстань, сьвяціся, Ерусалім, бо прыйшоў сьвет твой, і слава Гасподняя ўзышла над табою. Уздымі вочы твае і паглядзі вакол: усе зьбіраюцца, ідуць да цябе ...»*

Ісаія 60, 1, 4.

Улетку 1966 году праваслаўная група паломнікаў, зь якою езьдзіў у Палестыну аўтар гэтых нарысаў, была асабліва ўражаная згуртаванасьцяй і салідарнасьцяй усіх удзельнікаў, сьвятароў і вернікаў. Усе з цяплынёю на сэрцы прыгадваюць той энтузіязм, з якім наведваліся сьвятыя месцы і тую дапамогу і прыём, з якім іх сустракалі ў Патрыярхаце Ерусалімскім і на месцах. Нельга забыць тае радасьці і любові, яка сьвяцілася ў тварах архімандрыта Дзімітрыя — начальніка Духоўнай Місіі ў Ерусаліме, радаснага малебну і сьлёзаў у вачох, калі паломнікі слухалі сьпяваньне маладых арабак, вучаніцаў Віфанскае школы, і манашак Гефсіманскае Сьвятліцы.

Назаўсёды панесьлі ў сваёй удзячнай памяці паломнікі абраз сапраўднае, хрыстовае дапамогі брату ў Хрысьце. Адзін з паломнікаў, благачынны Філядэльфійскай Акругі, протаіерэй Мікола Сянькоўскі цяжка захварэў, быў часова пакладзены ў Шпіталь на Елеоне, а пасьля самалётам вывезены назад у Амэрыку. І вось, напярэдадні ягонага звароту ў ЗША, ён быў сабараваны япіскапам Мэфодыям і ўсіма сьвятарамі. Пасьля гэтага зварушлівага таінства хворы на насілках быў унесены ў Храм Гасподні і пад сьпяваньне вялікодных трапароў быў пастаўлены на падлозе каля самаго Гасподняга Гробу. З сьлязамі вялікага замілаваньня хворы мог дакрануцца да Сьвятога Ложа, памаліцца і выканаць найвялікшы абрад кажнага паломніка. Затым яго паднесьлі да Камня Памазаньня і далі змогу дакрануцца і памаліцца на Галгофе. Хавальнік Гасподняга Гробу ігумен Данііл дазволіў і дапамог хвораму прыкласьціся да сьвятыняў Рызьніцы. З нязвычнай цярплівасьцяй і дзівугоднай мужнасьцяй пакутнік разьвітаўся з паломнікамі, для кажнага знайшоўшы асобнае слова міласьці і ласкі. Ніколі не забудуцца жартлівыя словы хворага сьвятара. Лежачы на насілках, ён яшчэ знаходзіў змогу жартаваць:

— Вось бачыце, я маю перавагу перад іншымі. Усе Вы на собскіх нагах наведваеце гэтыя жыцьцядайныя месцы. А мяне нясуць, як пана, ды яшчэ ўслугоўваюць.

Усе мы надзвычайна цешыліся з тае прычыны, што хвораму далі змогу пабачыць тое, дзеля чаго ягонае стружджанае цела пакрыла было гэткую адлегласьць праз Акіян і ўсю Эўропу, што не прайшла дарэмна ягоная мара пабачыць у жыцьці Сьвятыя мясьціны. Пабачыў, такі, дарма, што у вельмі і вельмі крытычны час жыцьця. Усіх надзвычай цешыла сьведамасьць выкананага абавязку, радавала брацкая дапамога і хрысьціянская спагадлівасьць.

Кажны дзень на Сьвятой зямлі прыносіў богалюбівым паломнікам усё новыя доказы няўмяручае Хрыстовае любові і асаблівай увагі да шукальнікаў Божае праўды. У дзень першага пакланеньня Гасподняму Гробу 15 ліпеня для іх адбыўся адмысловы прыём у Троннай Залі Патрыярхіі. Блажэнны Патрыярх Ерусалімскі Венэдзікт з сапраўднаю любоўю Прымаў праваслаўных паломнікаў. Ён шчыра радаваўся, што колькасьць іх штогодне ўзрастае і выказаў пажаданьне, каб у будучым годзе іх было ўдвая больш. Ён ахвотна даў дазвол на наведаньне ўсіх Сьвятых месцаў, багаславіў Уладыку Мэфодыя з Парыжа і прыбылых зь ім восем протаірэяў адбываць літургію каля Гасподняго Гробу на Галгофе, у Віфлееме, каля Гробу Божай Маці і ўсюды, дзе Ўладыка пажадае.

У дапамогу паломнікам суправаджаць іх па Сьвятым месцам Патрыярх Венэдзікт прызначыў іх вернага сябру, любімага і аўтарытэтнага архімандрыта Феадосія — ігумена Віфанскай Жаночай Сьвятліцы. Дарэчы, частка паломнікаў і жыла ў кіраваным ім манастыры, а частка ў інтэрнаце Віфанскай Школы. Прыемнасьць і сардэчнасьць прыйма паломнікаў у Патрыярхіі была замацаваная інтымнаю бяседаю з самім Патрыярхам і кажнаму паднесенай чаркай смачнага віна, як і частаваньнем усходнімі салодкімі ласункамі.

Немалым здавальненьнем было для паломнікаў агляданьне ўнутраных пакояў Патрыярхіі з безьлічай фотаздымкаў царкоўнага жыцьця Ерусалімскае Патрыярхіі. А напярэдадні ад'езду паломнікаў з Палестыны Блажэнны Патрыярх Венэдзікт зноў прыняў іх, на гэты раз у Летняй Рэзідэнцыі ў Малой Галілеі. Гэта менавіта там незадоўга да гэтага адбылося гістарычнае спатканьне Папы Рымскага з Сусьветным Патрыярхам Афінагорам. Прыемна было пачуць там ад Патрыярха Венэдікта запросіны Ўладыцы Мефодыю зноў наведаць з групай паломікаў Сьвятыя Месцы. Патрыярх уласнаручна ўзнагародзіў Правялебнага япіскапа Мэфодыя і восем сьвятароў-паломнікаў адмысловым мэдалям, адчаканеным з нагоды перанясеньня мошчаў Сьв. Саввы Асьвячонага з Вэнэцыі ў ягоную даўнюю лаўру на Сьвятой Зямлі.

За асаблівыя заслугі ў справе дапамогі Сьвятым месцам сакратарка Парыжскага Палестынскага Камітэту была ўзнагароджаная Крыжом з кавалкам Жыватворнага Крыжа Гасподняга. А ўсе паломнікі атрымалі ад Блажэннага Патрыярха Венэдзікта адмысловы дыплём — пасьведчаньне паломніцтва ў Сьвятую Зямлю. Тут ніжэй падаецца арыгінальны ангельскі тэкст такога пасьведчаньня, выданага на імя аўтара гэтых нарысаў.

The Holy Sepulchre

CERTIFICATE OF PILGRIMAGE

The undersigned the Very Reverend Archimandrite Germanos, Guardian and Superior of the Church of the Holy Sepulchre, hereby certificates that

Dr. Vladimir Seduro

has duly visited the Church of the Holy Sepulchre of our Lord and Saviour Jesus Christ and the other Holy Shrines within the Basilica of the Holy Sepulchre and as a Pilgrin has made therein his pious devotions on this the 15th day of July in the year of Our Lord One Thousand Nine Hundred and sixty sixth; Whereof this Certificate signed and sealed in the Holy City of Jerusalem is a Witness.

We pray and beseech the Almighty and Eternal God that He will bless and save this Pilgrim, preserving him from all evil and danger; and that He will guide and strengthen him in the way of Piety and Holiness, so that he may take his part in the building of Christ's Kingdom of Earth.

(Seal) (Signature)

Guardian of the Church of the Holy Sepulchre

## XIII

## ПЕРАМОГА ДУХА

*«Ісус Хрыстос перамагае...»*
З падпольнага выданьня.

Ніколі ні сатрэцца з памяці той вечаровы перадзакатны час, калі паломнікі азіралі заліты зырка-чырвонымі пасмамі заходзячага сонца белакаменны Ерусалім. З гары Малой Галілеі Патрыяршай летняй рэзыдэнцыі ўвесь Ерусалім, і арабскі, і Ізраільскі, ляжаў рэльефна, як на далоні, і нібыта песьціўся ў апошніх праменьнях сонечнага дня. Манахі называлі многія добрабачныя і знаныя будынкі па тым баку мяжы. Даўгою высокаю каменнаю выгінастаю градою разлёгся будынак Ізраільскага Парлямэнту. Яго абступалі гістарычныя прыседзістыя камяніцы, што помняць і носяць рубцы на собе розных часоў і зьменаў уладальнікаў. А там жа сярод іх ці мала і такіх, пад якімі ляжыць таксама зямля, выхаджаная і ўтаптаная ступнямі Хрыстовых вучняў і нат' самім Збавіцелем. Балела сэрца і станавілася сумна, што выхаджаная Хрыстом і палітая яго кроўю зямля цяпер ляжыць падзеленая паміж двумя варажнечымі табарамі. І няма наразе ніякіх палітычных лекаў на тую варожасьць. Колькі сьвет ні стараецца перашкодзіць раздзьмуханьню штучнага пажару на той дзялянцы, яму ўдаецца адно прыпыніць той агонь на нейкі час, а ў сярэдзіне ён тлее і дае раз-паразу ведаць пра сябе выбухам усё новых і новых забойчых дзеяньняў з абодвых бакоў. Слухаючы тлумачэньні бакоў у Аб'еднаных Нацыях, цяжка разабрацца, хто вінаваты. Кажны раз разгляд той не дае вынікаў і справа каторы раз зноў кладзецца пад сукно.

«І мусіць так будзе яшчэ доўга-доўга, пакуль людзі ня зьвернуцца да адзіна правільнага сродку вырашэньня спрэчак па-божаму: дараваць адзін другому ўсе крыўды і пачаць жыць па-новаму з любоўю і ласкаю да кажнага, як вучыў Збавіцель. Гэта-ж ён і праліў сваю высокародную кроў у імя такога пагадненьня людзей», — думаў тады там Усевалад Ціхановіч, седзячы на невысокай пашчэрбленай сьцяне, што адлучала з захаду сад высокіх магутных дрэваў Патрыяршае рэзыдэнцыі ад прасторы няведама каму належачых выгарэлых і пажоўклых узгоркаў ніжэй.

І яму тады на Сьвятой Зямлі прыгадаўся Сьвяты Іоанн Златауст з залатымі словамі: «Чаму-ж ты ня здольны дараваць крыўду свайму ворагу? Зьмяні свой нораў: калі ты злосны, старайся быць рахманым; калі помслівы, ня помсьці; любіш абгаворваць і пляткарыць — устрымайся, і г. д. Рабі ў дні паста больш дабра, будзь спагадлівым да людзей, ахвотней дапамагай тым, хто патрабуе дапамогі, маліся больш дбайна, цяплей, і г. д.». А прэпадобны Серафім вучыў здабываць Сьвяты Дух Божы і тым агнём распальваць сэрцы і чэрава, раіў зьвяртацца да пакаяньня і малітвы, скарыцца ў вызнаньні чалавечых грахоў. І вось каб усе людзі ўсьвядомілі сябе грэшнымі, вінаватымі перад усіма, за ўсе былыя і сучасныя грэшныя дзеі, дык лягчэй бы было і міру дасягнуць. А тут, на Сьвятой Зямлі веліч Хрыстовых чыноў, значэньне ягонае прапаведзі любові і дараваньня асабліва пераканаўчыя. Бадай-што дзьве тысячы гадоў Сьвятыя Месцы стаяць надзейнымі вартаўнікамі вялікіх запаветаў і перамаглі шмат варожых разбу-

ральных стыхіяў. І яшчэ выстаяць ці мала наскокаў, бо ўрэшце-рэштаў Хрыстос заўсёды перамагае. Сучасныя дасягненьні навукі давялі, што матэрыя, у якую гэтак сьлепа верылі матар'ялісты-бязбожнікі і якую яны з часоў Маркса абагаўлялі, ёсьць нічым іншым, як відам энэргіі, г. зн. паходзіць ад Сілы, Волі, Духа, іначай кажучы, ад Бога. І цяпер, магчыма, як ніколі раней хрысьціяны мусяць яднацца, знаходзіць аднаверцаў у Божую праўду. І Сьвятая Зямля становіць сабою важны стымул у хрысьціянскім адраджэньні і духовым уздыме нашага часу.

На зваротным шляху з Сьвятое Зямлі 30 ліпеня паломнікі знаходзіліся на параплаве «Аўсонія», які забраў іх з Бейрута і цяпер пад гарачым ягіпецкім сонцам запыніўся ў Александрыі. Паяжджане павыходзілі на палубу і, абапершыся на поручні, дзіваваліся на ўсходнюю экзотыку. Унізе ў порце гарланілі сотні розных разносчыкаў-гандляроў. Кажны з іх намагаўся прыцягнуць увагу да свайго тавару, выхваляючы яго на ламанай ангельскай, францускай або проста на арабскай мове. Кажны з іх уздымаў высака свае рэчы, гучна стукаў па іх, як па барабану, шчоўкаў замкамі валізак, пстрыкаў пальцамі, ляскаў зубамі, каб вылучыць іх перад іншымі. Фокусьнікі чаравалі дзяцюкоў і жанчын удалымі хітрыкамі, глыналі зьмей, птушак, трусоў, каб пасьля нечакана вымаць іх з іншых кішэняў. Глыналіся кінжалы, нажы, галубы, агонь. Усьлед за гэтым выстаўляліся шапкі для падачкі. Зьверху сыпаліся далавах «квотэры», «даймы», «нікелс».

З палубы параплава «Аўсонія» чулася наша гаворка. А побач недалёка ад «Аўсоніі» стаяў вялікі савецкі параплаў «Фэлікс Дзяржынскі». Адтуль чулася расейская мова, на палубе мітусіліся гаваркія жанчыны, на зямлю сыходзлі дзябёлыя мужчыны з задзірыстымі паглядамі на сьвет. Гэта былі савецкія інжынэры і тэхнікі, што ехалі будаваць электра і гідрастанцыі «сваяку» Насэру.

І вось гэтае спатканьне каля эгіпецкіх берагоў горсткі праваслаўных паломнікаў — носьбітаў духовых багацьцяў — з прадстаўнікамі сучаснай матэрыялістычнай Расеі — тэхнічна багатай, але духова пустой зьбедненай, было асабліва сымбалічным. Гэта была фактычна сустрэча двух супроцьлежных сьветаў: Высокага Сьвету Сьвятога Духу і сьвету абагоўленай паганскай матэрыі.

Дух супраць Матэрыі! Хто пераможа ў даўгім спусташаючым спаборніцтве?

Для Ўсевалада Ціхановіча цяпер, пасьля наведаньня Сьвятое Зямлі, іншага адказу на гэтае пытаньне ня было. Ён упэўнена і пераканальна прамовіў уголас:

— Пераможа Дух! Хрыстос Уваскрос!

Студзень-люты, 1967
Трой, Нью-Ёрк

(К а н е ц)

---

## З царкоўнага жыцьця

У траўні г. г. памёр Грыгоры-Пётр Агаджаньян, выдатны кардынал, гадоў 75: быў кандыдатам на папу падчас выбараў. Паліглот — знаў многа языкоў, належыў да армянскага абраду. Змалку адзначаўся вялікімі здольнасьцямі: ад 14 гадоў вучыўся ў Рыме, а пасьля працаваў навукова і на розных становішчах у Ватыкане.

### ПАДРЫХТОЎКА ДА СУСЬВЕТНАГА СЫНОДУ Ў ВАТЫКАНЕ

У кастрычніку г. г. адбудзецца Сынод Біскупаў: Сынод, які выбіраецца кажныя два гады, ёсьць дарадчым органам у Рымскага Папы. На гэтым зьезьдзе будуць абмеркаваны самыя важныя справы цяперашняга часу: цэлібат духавенства, крызыс духоўных прызваньняў і інш.

### СУСЬВЕТНЫ ДЗЕНЬ СРОДКАЎ ГРАМАДЗКАЙ СУВЯЗІ

25 траўня г.г. — дзень «сувязі»: прэса, радыё, кіно, тэлевізія. Гэтыя сродкі зьвязваюць чалавецтва, інфармуюць, рэклямуюць, вучаць, забаўляюць людзей, асабліва моладзь. Фармуюць апінію сьвету, узносяць увысь духа людзкога, але — на жаль — могуць горшыць і псаваць характары і душу чалавека.

Папа Павал VI ў гэтым годзе апэляваў да ўсяго сьвету, каб Дзень Сувязі пасьвяціць справе супакою і згоды ў людзтве і Царква асабліва моліцца у гэтай генэральнай інтэнцыі. А ў спэцыяльнай інструкцыі Папа падкрэсьліў, што Царква мае поўнае права карыстаць для сваей місіі з усіх сродкаў камунікацыі. Царква мае права і абавязак весьці апостольства між народамі, каб чытачы, слухачы і гледачы маглі свабодна карыстаць для сваей хрысьціянскай навукі — пазнаньня і паглыбеньня веры і ладжаньня парадку, згоды, любові і наагул маральнага жыцьця.

### 15 ГАДОЎ ЗЛУЧЭНЬНЯ БІСКУПАЎ У ПАЎДЗЁННАЙ АМЭРЫЦЫ

Біскупы зьехаліся на супольны Кангрэс абсудзіць патрэбы духоўныя ўсяго кантынэнту,

асабліва браку духавенства і законнікаў — законніц. Каталіцкага народу там да 220 мільёнаў! а духавенства свайго вельмі мала: прыездныя ўспамагаюць, але таксама недастаткова. Людзі патрабуюць сьвятароў: ахвотна прыймаюць і прыбываюць да касьцёлаў, а як бракуе сьвятара, касьцёлы пусьцеюць, а людзі апускаюцца ў Божай службе і ў малітве. А Сам Хрыстос казаў: «Шкада Мне народу!..»

*

Павал VI асаблівую ўвагу зьвертае на Кітай: узнікла думка залажыць у Гонконгу місыйны Інстытут, каб рыхтаваць місіянэраў для Кітаю. Маюць вучыцца кітайскае мовы і кітайскіх абычаяў, каб належна прыгатавацца да працы місыйнай, пазнаўшы культуру і патрэбы гэтага найбольшага народу ў сьвеце — звыш 800 мільёнаў!

## Залаты Юбілей

а. Пралата ПЯТРА ТАТАРЫНОВІЧА — 50 год сьвятарства дня 29 чэрвеня, з тым і дзень Імянінаў і 75 год жыцьця!!!

З усім гэтым шчасьлівым здарэньнем рэдакцыя «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» віншуе ІМЯНІННІКА і ЮБІЛЯТА: жадае найміляйшага здароўя і ўсялякіх Божых ласкаў дый паводзінаў у рэдагаваньні «ЗЬНІЧА» да 2.000 году і далей!

Усё сьвяткаваньне Паважаны ПРАЛАТ спраўляе ў Рыме 29. VI. 1971.

Рэдакцыя «Божым Шляхам».

## З вестак і з лістоў

Расказвае госьць, прыбыўшы з пад Бабруйска: — Каля 30 год. не бачыліся, пастарэў за гэты час; а перанёс вельмі многа цяжкасьцяў і гора. Прыехаўшы з лягеру з Нямеччыны, ледзь не памёр із роспачы! Не асталося тут нікога і нічога: па вёсках ані скаціны, ані нат курыцы, сабакі або ката. Ні аднаго доміка і ледзь спатыкаліся калекі і жанчыны. Ідзеш дарогай і толькі дзе-нідзе асталіся коміны і кусьцікі... А часамі з нары вылазіць жанчына. Парабілі сабе такія норы, прыкрыўшы іх хворостам: дождж і мокра дый гэта ўсё, што асталося.

Як прышлося сеяць вясной, дык некалька жанчын запрагаліся ў плуг і цягнулі. І гэта трывала праз тры гады па вайне... Ён гэта і цяпер перажывае; а цяперашняя ўлада не дае таго забывацца. — На кажным кроку гаворыцца: «Вось і пабачце, што вам прынесьлі і капіталісты, — заходнія фашысты. Хто з вас хацеў-бы, каб гэта паўтарылася?

Сапраўды, зьверства апошняе вайны прычыніліся, хоць не да любові, дык да паслушэнства камуне і Саветам. Цікава яшчэ і тое, што ў школах не адрозьніваюць паасобных заходніх дзяржаваў, нават і тых, што ваявалі з немцамі, а ўсё гуртам прадстаўляюць, як фашызм і капіталізм!..

Пагаварыўшы з гэтым чалавекам, думаем, што людзі, якія перажылі апошнюю вайну, так змучаны — аж ня могуць даваць ніякага супраціву ўладам Беларусі, хіба што маладое пакаленьне пачне рэагаваць па новаму? *Янка Зарэчны*

*

НЬЮ ЁРК: Дзякуем за прысланае запрашэньне на ўрачыстае адкрыцьцё Бібліятэкі. На жаль, нам не ўдасца прысутнічаць, аднак улучаем нашыя пажаданьні посьпехаў. Вам напэўна хапае клапотаў і беганіны зьвязаных з такім сьвятам, але, праўда, гэта і прыемна дый заслугі немалыя.

У нас нічога новага, а ў Вас цікавей, бо і забастоўка прычынілася да зарганізаваньня беларускае пошты: за гэта належыцца беларусам нагарода і мы цешымся з добрага помыслу.

У нас вясна і мы занятыя ў агародах і гэтак адпачываецца ад штодзённай працы-службы.

*Э—Я.*

*

КАНАДА: Шчыра дзякую за ліст і за «пагрозьлівыя» запросіны на высьвячэньне Бібліятэкі-Музэю на 15 мая. Рад-бы пад'ехаць, неяк за кароткі тэрмін, бо не спраўлюся атрымаць заграніччны пашпарт. Прыдзецца заплаціць «штраф».

У гэтым лісьце залучаю $ 10,00 на «Б. Шл.» (з гэтых $ 5,00 ад МК і $ 5,00 ад сябе. Але ёсьць такія, што «чытаюць, а не плацюць ці сябе яны багацюць?» Дзякую яшчэ за беларускія паштовыя маркі. Сапраўды яны цікавыя. Шкода, што і далей ангельская пошта не страйкуе: былі-б і далей у абегу... Да мяне пішуць з усіх куткоў сьвету, дык маю значную калекцыю марак, а цяпер пабагацею і беларускімі. Калі ня выпадзе мне паехаць у Лёндан, дык калі ласка прыпомніце аб «штрафе»! *П. Я-п*

*

АЎСТРАЛІЯ—ВІКТОРЫЯ: 20 сакавіка 1971. У апошнім часе адыйшло на вечны супачынак шмат знаёмых. Пазаўчора быў на паховінах украінскага архіяпіскапа — амаль цэлы дзень. А два тыдні раней пахавалі беларускага сьвятара, Прыкра, што беларускага сьвятара «аплаківалі

расейцы», а хавалі грэкі, дый на грэцкай частцы магільніку — сярод грэкаў. — Гэтулькі марнуецца нашых людзей — мест служыць сваім: гэта наша трагедыя! Ня дзіва, што вораг цешыцца і мае менш турботаў з намі.

У апошніх днях пачаў чытаць вашую «Повесьць» («Хлапец»), выданую яшчэ ў Вільні у 1939 г. праз «Беларускую Крыніцу». Атрымаў яе нядаўна з Польшчы ад сына пакойнага Ластаўкі, якіх наведаў, калі быў у Варшаве. Чытаю кніжку з прыемнасьцяй. Так яна папаўняе «Успаміны» М. Танка, выданыя ў 1970, якія атрымаў ад сястры з Бацькаўшчыны. Нямала прыпомнілася з собскага жыцьця, праўда, я ўваходзіў у гэтае жыцьцё шмат пазьней. Як скончу чытаць, падзялюся сваімі ўражаньнямі і заўвагамі. Лічу, што нейкія часткі буду чытаць сваім дзецям, толькі ці яны зразумеюць? Яны жывуць у зусім іншым сьвеце ... *Н—М.*

*

ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ—ТРЭНТОН: Тыдзень таму назад простай поштай мы паслалі Вам часапісы выдавецтва «Родны Край» ад № 2 да 8. Калі ня купіце, то прачытаўшы вярніце назад, а мы Вам пашлём новыя. Хоць і рэдка, але часапіс будзе выходзіць. Чэкі можна пасылаць на «Родны Край». У гэтым часапісе кожны аўтар аплачывае друк сваіх артыкулаў, пагэтаму шмат розных поглядаў. Мы не маем грошай, каб весьці нейкую прапаганду, ці наагул «генэральную лінію».

Зьвярніце, калі ласка, увагу на апавяданьні «Беларуская Быль». Гэта вельмі каштоўны народны фальклёр і мы нават кожнаму плоцім па аднаму доляру за такое апавяданьне. Можа і Вы ведаеце што, дык прышліце.

Часапіс «Божым Шляхам» нам не прысылайце, бо мы яго тут на месцы атрымоўваем і стала чытаем.

Памагай Вам Бог!

З глыбокаю да Вас пашанаю і ўдзячнасьцю
Выдавецтва «Родны Край».
P.O. BOX 1944
TRENTON, N. J., U.S.A.

1-га Мая 1971 г.

ЛЁНДАН: Атрымаў я кніжку «Сьледам за Хрыстусам»: 2-ое выданьне, перадрук з I-га, але мае прыгажэйшы вонкавы выгляд. Належная падзяка а. Фр. Чарняўскаму! Адчуваўся недахоп гэтай кніжкі на беларускай мове. А якраз гэтае выданьне супадае з гадавінай — 500 год юбілейнай сьмерці аўтара: памёр ён 1 траўня 1471 г., маючы 92 гады жыцьця. Усё сваё жыцьцё пасьвяціў ён адраджэньню хрысьціянства на Захадзе. Узьнікнулі тады соткі інстытутаў — «Братоў і Сясьцёр Супольнага Жыцьця», у якіх практыкавалася сьледаваньне за Хрыстом», не стаючыся манахамі. — Пасьля некаторыя з гэтых інстытутаў ператварыліся ў манастыры і да аднаго з іх уступіў Тамаш а Кэмпіс (з Кэмп у Галяндыі): вёў багамыснае жыцьцё і напісаў некалька набожных кніжак. — «Сьледам за Хрыстом» пачалі перакладаць на розныя мовы, што трывае дасюль.

Закончу пару думкамі з гэтае кніжкі: «Многа робіць, хто тое, што робіць, добра робіць. (I, 15, 2)». — «На двух крыллях лунае чалавек над зямлёю: на прастадушнасьці і чыстасьці. Прастадушнасьць павінна быць у намерах, а чыстасьць у пачуцьцях. Ніякая справа ня будзе цяжкою, калі будзеш свабодным у душы ад грэшных нахілаў». (II, 4, 1). *Чытач Лявон В.*

# З прачытаных кніжак

І найгоршы сабака віляе хвастом. (Італьскае)

Раніца — юнацтва дня: вечар — старасьць дня. (Шопэнгаўэр).

Чаго не павінен ведаць вораг, таго не кажы і другу. (Таго-ж).

Дух ёсьць небачны для таго, хто сам яго не мае. (Таго-ж).

Сакрат сказаў у багатым магазыне: «О, як шмат ёсьць речаў, якія мне зусім непатрэбны!»

Добрае ёсьць двойчы лепшае, калі кароткае. (Бальтазар Грацiяно).

Адна унцыя ўласнага розуму варта гэтулькі, колькі дзьве тысячы фунтаў чужога. (Стэрн).

Вучоныя — гэта такія, што начыталіся кніжак, але мысьліцелі, геніі і асьветнікі сьвету і рухавікі чалавецтва — гэта такія, што чыталі непасрэдна ў кнізе сусьвету. (Шопэнгаўэр).

Чытаць трэба толькі тады, калі высыхае крыніца ўласных думак, што часта здараецца з самай найлепшай галавою ... аднак адганяць уласныя, сапраўды-магутныя думкі гэта — недаравальны грэх. (Таго-ж).

Чытаць, значыць, думаць чужой галавою, замест сваей уласнай. Нішто ня можа быць больш шкодным, як занадта моцны наплыў ад непасрэднага чытаньня чужых думак, таму што яны, належачы паасобна да разнаякіх розумаў, да іншае сыстэмы, носячы другую афарбоўку, ніколі не сальюцца ў адно цэлае і не дадуць аднаго думаньня, веды, погляду і праканаьня, а хутчэй уфармуюць у галаве лёгкае бабілёнскае стаўпатварэньне. (Таго-ж).

## З КНІЖАК І ЧАСАПІСАЎ:

# „Як захварэць?“

ДОБРЫЯ РАДЫ: Нямала спатыкаецца сыстэмаў, як захаваць здароўе ці ратавацца ў хваробах; але як захварэць, дык на гэта няма «добрых радаў» — аж адзін лекар — у час. «Савецкая Літва» з 2. X. 1966 г. — падае такую праграму, вельмі трапную, хоць ён толькі «кандыдат мэдыц. навукаў» — Н. Тамбіан. (А што ён яшчэ дарадзіць, калі стане доктарам?).

Ён цытуе Сэнэку, які казаў, што кароткага жыцьця мы не дастаём, але ствараем сабе самі. А Д. Леббок падлічыў, што колькасьць людзей, якія загубілі сябе самі, куды большая, чым зьнішчылі іншыя.

Найперш, як аджыўляцца? Каб хутчэй падарваць сваё здароўе, трэба раніцай — перад работай — насьпех папіць гарачай гарбаты, глытаючы бутэрброд. Затое на абедзе трэ' добра намалаціцца! А ўжо-ж вечарам есьці што найтлусьцейшае і то — перад самым сном...

А хто склонны да атлусьценьня, няхай есьць часьцей дый смаглей, асабліва салодкае і смачнае; а для лепшага апэтыту радзіцца прыпраўляць яду рознымі дадаткамі, як перац, хрэн, сосы, падліўкі, — аднак найлепш паскуткуе выпіўка, асабліва ў таварystве дый з анэкдотамі ці з прыпеўкамі.

На паважным месьце ў жыцьці стаіць сэрца, дык трэба салідна яго зламаць, каб лягчэй і скарэй памерці. Для гэтага якраз служыць атлушчэньне арганізму.

Пасьля памагае да хваробаў курэньне: курыць трэба часьцей і трывала — ўдзень, а нават і ўначы! Асабліва вечарам перад сном: тут лучыцца прыемнасьць з карысьцяй. Калі курыш удзень 10 папяросак, дык магчыма іх падвоіць і патроіць: хто прыкурывае папяросу ад папярэдняе, той эканоміць на запалках.

І яшчэ важна сьцерагчыся фізычнае работы, спорту, гімнастыкі, прагулак ды іншае фатыгі: затое належыць часьцей прылягаць, найлепш пасьля добрага абеду і на даўжэйшы прабег гадзінак. А заўсёды лепш пад'ехаць, чым падыйсьці.

Так сама дужа патрэбна панаракаць на здароўе, пабедаваць дый радзіцца з усімі спатканымі. А нэрвы найбольш любяць ня ўступаць у спрэчках, у дыспутах і паставіць на сваім! Ну, ведама, што недарэмна выдумалі тэлэбач! Пасядзець і аглядаць з мяккага крэсла — на гэта ня шкода і добрых колькі гадзінак!..

Калі ўсё гэта кандыдат прыйме пад увагу дый паволі ўвядзе ў практыку, дык няхай з паводзінамі хварэе, як кажуць, «на здароўе!».

---

### ЗЬМЕСТ



---


Druck: „Logos“ GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, 8 München 19, Bothmerstr. 14